№ 4.

*„Загляне сонцэ*
*и ў нашэ ваконцэ!“*

# ПЕРШАЕ ЧЫТАННЕ

## ДЛЯ ДЗЕТАК БЕЛАРУСАЎ.

Написала Цйотка.

**Цэна 6 кап.**

ПЕЦЯРБУРГ
Друкарня К. Пянткоўскага Вял. Пад'ячэская вул., № 22.
1906.



Сярод дарэвалюцыйных пісьменнікаў Беларусі адно з пачэсных месц па праву належыць Цётцы (сапраўднае прозвішча Алаіза Сцяпанаўна Пашкевіч).

Паэтэса-рэвалюцыянерка, асветніца, рэдактар, публіцыст, настаўніца, артыстка, медыцынскі работнік — усё гэта ўвасабляла ў сабе яркая, самабытная асоба Цёткі.

Веды, набытыя ў семінарскім вучылішчы, вопыт вясковай настаўніцы, педагагічны і літаратурны талент, любоў да роднай зямлі дапамаглі ёй стварыць кніжку «Першае чытанне для дзетак беларусаў», якая была надрукавана ў 1906 годзе. У ёй вершы, навелы-замалёўкі, вучэбны матэрыял, а таксама народныя казкі, прыказкі, прымаўкі, прыпеўкі, загадкі.

Упершыню свой псеўданім — Цётка — Алаіза Сцяпанаўна Пашкевіч выкарыстала іменна ў гэтай кніжцы.

Цяпер маленькі чытач мае магчымасць атрымаць факсімільнае выданне «Першага чытання для дзетак беларусаў».

**№ 4.**

*„Загляне сонцэ*
*и ў нашэ ваконцэ!“*

# ПЕРШАЕ ЧЫТАННЕ

## ДЛЯ ДЗЕТАК БЕЛАРУСАЎ.

Написала Цйотка.

**Цэна 6 кап.**

ПЕЦЯРБУРГ
Друкарня К. Пянткоўскага. Вял. Пад'ячэская вул., № 22.
1906.

Для тых, што не вучылися на нашым лемэнтары:

Знак ґ чытаць, як лацинскае и польскае g

Знакъ г як h.

Знак ў як кароткае у так серэдольшэ прамеж л и у.

# Часць I

## 1. Нядзе́ля.

Ў нядзе́лю найпе́рш устаю́ць ма́тка и ста́рша сястра́, Гану́ля. Ма́тка па́лиць ў пе́чы, ва́рыць стра́ву, пячэ́ блины́. А сястра́ го́ниць каро́вы ў по́ле. Апасля́ прыежджа́ецъ ба́цька з начле́гу и бу́дзиць Винцуля́. Винцу́ль до́ўга паця́гиваецца, зява́е, а́ле ма́тка ста́виць сне́даць на стол и крычы́ць: „Винцу́ль, Винцу́ль, сква́рки асты́нуць, ўстава́й и так ужо́ даўно́, як Ганул́я за цябе́ каро́ўки пасе́!“ Винцу́ль схапля́ецца, барджэ́нька мы́ецца, гаво́рыць па́церы, сне́дае и бяжы́ць да бы́дла. — Прыхо́дзиць Ганул́я да ха́ты. Тагды́ ўстаю́ць ужо́ ме́ншые дзе́ци и стара́я бабу́ля. Хто мы́ецца, хто чэ́шэцца, хто по́рце чы́стае кладзе́.—Паабе́даўшы дзе́ци с кры́кам бягу́ць на ви́оску гуля́ць, а ба́цька з ма́ткаю и Ганул́яю идзе́ да цэ́рквы. Астае́цца одна́ бабу́ля пилнава́ць ха́ты.

У нядзельку добра спаци.
Можна часта пазней ўстаци,
Посьле матка накупае,
Жоўты коски насплятае,
И кашульки дасьць нам белы,
Блинец с скваркай з'ямо цэлы.
Тагды бяжым мы к суседу
З дзяцьми гуляць да абеду.

## 2. На́ша гаспада́рка.

Ма́ем дзьве каро́ўки: адна́ ры́жая ў бе́лые ла́ты; мы яе́ называ́ем „Красу́ляй". Друга́я, палаве́нька — „Зязю́лька". Красу́лька ме́нша, а больш малака́ дае́. Та́тка ка́жэ, што ле́пшы заво́д. А я люблю́ Зязю́льку, бо ня так на шко́ду ла́са. Йосць ящэ́ тры аве́чки з дво́йма близня́тками, Ко́ник — кашта́нчык и гэ́та ўся́ жыва́я гаспада́рка. Пра́ўда, были́ парсючо́к и дзьве куры́цы. Але куры́цы ма́тка жыдо́м прадала́, а парсючо́к здох пе́рад сьёмухаю.

Мне здае́цца, што мы ня ве́льми бага́ты и ня на́дта бе́дны. Сярэ́дняе руки́ гаспадары́.

## 3. Сва́рба.

Пасвары́лися вясна́ з зимо́ю, ну й дава́й адна́ адно́й на злосць раби́ць. „Я, ка́жэ вясна́

на зиму́, ня бу́ду с табо́й шмат гавары́ць! За каўне́р и так шпургану́, што аж за ляса́ми ты ў мяне́ апы́нешся!“—„Маўчы́, маўчы́—бурча́ла бе́лая зима́: хи́ба я цябе́ ў бара́ни рог заганю́, як сци́сну, то аж табе́ вы́лязуць во́чы“. Ну й пачали́ адна́ аднэ́й на перако́р раби́ць. Зима́ паўзе́ з маро́зам—вясна́ ле́зе з адли́гай, и зноў няма́ пара́дку. Цярпе́ли лю́дзи, цярпе́ли, а по́сле дава́й сход раби́ць, дава́й ра́дзиць, на чые́й тут старане́ йим стаць. Адны́ каза́ли: „Мы яшчэ́ ня вы́малацили збо́жа, не навази́ли дроў, не атпачы́ли по́сле ле́тняе пра́цы, хай пабу́дзе зима́“. Други́е зноў крыча́ли: „Вон зиму́! яна́ нас памаро́зиць; мы й так ла́пци патапта́ли, кажухи́ абадра́ли. До́сиць нам яе́; хо́чэм вясны́“. И ня ве́дама, як то яно́ прайшло́б на тым схо́дзи, каб не ўвайшо́ў старэ́ньки жабра́к и не пача́ў жа́лицца на зиму́.

Пра́ўда: ву́шы были́ адмаро́жаны, ру́ки пакрэ́пши, сви́тка рва́на, сам йон дрыжа́ў ат хо́ладу. Ўве́сь сход закрыча́ў ў адзи́н го́лас: „ня хо́чэм зимы́! хай вясна́ идзе́ да нас!“ Бе́дная зима́ запла́кала го́рка на людзе́й; слйо́зки яе́ цякли́ с стрех, би́ли па абало́нках *), раз-

*) па шыбахъ.

ліва́лися па зямлі́, збяга́лі ў лу́жы, з лу́жаў ў рэ́чкі, з рэ́чак у мо́ры, з мо́раў ў акія́ны.

А вясна́ смяя́лася, стро́йилася ў кве́ткі, гарцава́ла па паля́х пе́сцилася па садо́х, шчэбята́ла с пту́шкамі, цалава́лася з дзеткамі аж пакуль не пасва́рылася з ле́там.

Хто цяпе́р абдале́е, скажы́це дзе́ткі са́мі.

## 4. Вясна.

Цйотухна, зима,
Прышла кума вясна,
Гониць цябе с хаты,
Свае нясе шаты:
Хусты, стужки, кветки,
Андарак, жыкетки!

## 5. Паку́ль не ў рука́х, не кажы́, што твайо́.

Йшоў бе́дны мужычо́к це́раз чы́стае по́ле, убачыў за́йчыка, на́дта уце́шыўся и ка́жэць: Вот г дзе мне Бог на ша́пку пасла́ў! Падкрадуся я да гэ́тага за́йчыка, забью́ яго́, занясу́ ў мясте́чка, прада́м и за гэ́ты гро́шы куплю́

свинку; свинка апаросицца, будзе дванаццаць парасятак. Парасятки вырастуць и прывядуць зноў па дванаццаць парасятак; тагды я ўсих укармлю, пакалю, свиран мяса налажу, мяса прадам и за грошы вот якую хату пабудую, вот яки буду багаты! Самъ тагды буду пажываць, да мядочэкъ папиваць! Вот то будзе жыцьцйо! И так крыкнуў моцна паткраўшыся да зайчыка, што зайчык прачхнуўся и уцйок.

Ня пий мйоду, ня стаў хаты,
Пакуль ў руках пуста!
Не хвалися, што багаты!
Не кажы, што густа,
Пакуль крупник, як вадзица,
Бураки бяз квасу,
Не кажы: „Грашэй крыница,
Зличыць няма часу!

## 6. С прыску, ды ў агонь.

Аднаго разу вйоз гаспадар збожа да млина. Па дарози крыху рассыпаў. Угледзели гэта галубы, прыляцели и давай клеваць зерняты. Якраз на тое прыбег пявун, разагнаў галубоў и сам пачаў дзюбаць. Галубы дужа зазлавали,

дый ка́жуць: „мы табе́ шальмо́ўства тако́га не дару́ем, паска́ржымся каму́ трэ́ба“.

Паляце́ли да каршуна́ и дава́й на пе́ўня чаўпа́ци *). А каршуну́ была́ на ру́ку гэ́та ска́рга; йон скары́стаў з яе́ и распра́виўся па сво́яму: с пача́тку зьеў пе́ўня, а по́сле закусі́ў галуба́ми.

## 7. Гу́тарка асо́ту с крапи́ваю.

Што ты паты́каўся са мно́ю? крыча́ла крапи́ва асо́ту: ци я табе́ раўня́? ничо́га ты ня ро́биш; нихто́ цябе́ ня зна́е; ве́траеш не́дзи ў по́ли сяро́д гаўсо́ў. Вот я так увиха́юся: каго́ крапи́ва пацалу́е, хто крапи́ву згату́е. Ко́жны крапи́ву зна́е, ко́жны спамина́е, на ко́жным падво́рку расту́ я. Глядзь! ужо́ аж д пры́зьбаў падпаўзла́.

„Ша́кжэ—адазва́ўся стары́ асто́ – я расту́ да̀лей, ба́чуць мяне́ лю́дзи радзе́й, а́ле му́сиць мае́ шпи́льки дык даужэ́й по́мнюць ат крапи́ўки.

Як раз на той час патслу́хала йих гу́тарку мала́я Мару́та и ка́жэць: Не хвали́цися: або́я

*) Ска́ржыцца.

вы рабо́я! Мату́лька каза́ла, што вас або́двых с карэ́нням вы́дзярэ.

## 8. Сыно́к мале́ньки.

Татульку, хочу я чытаць;
Татульку, хочу свет пазнаць;
Татульку, ехаць хочу праз моры;
Татульку, абачыць хочу горы;
Як я буду вучоным, татульку,
Куплю табе тытуну ў люльку,
Куплю яшчэ кажух белы
Дый армяк суконны цэлы;
Куплю сарочку нову;
Дый сашонку клянову.
Пачнеш, татулька, гарадь
Дый сынка спаминаць.
Матульку тож люблю,
Чырвону хусту куплю,
Хвартушок рабеньки,
Андарак палавеньки;
Пацерак не адзин шнурок
Купиць для цябе твой сынок,
Только чытаць навучыце,
Дый у свет сынка пусцице,
Тагды, татулйочку,
Сивы галубочку,
Тагды и, матулька,

Рабенька зязюлька,
Куплю абецанки!

Абеца́нка-цаца́нка, а дурно́му ра́дасць.
Ча́ста абеца́юць, рэ́дка датрыва́юць.

## 9. Жураве́ль и Ча́пля.

Жыли сабе́ па або́двых канцо́х бало́та Жураве́ль и Ча́пля. По́сле ста́ла йим на́дта марко́тна жыць и вот узду́маў Жураве́ль да Ча́пли ў сва́ты йсци. Ципяху́, липяху́, сем вярсто́ў па маху́, цера́з бор ды ў ча́пляў двор.

„Як мае́шся Ча́пля?“ „Здаро́ў Жураве́ль!“ „Ци ня по́йдзеш, Ча́пля, за мяне́ за́муж?“ — „А твае́ но́ги до́ўги, пе́р'я каро́тка; ду́жа ты бры́дки, ня прыпада́еш да маяго́ сма́ку! Идзи́ сабе́, гдзе быў! Жураве́ль перэбра́ўся изно́ў це́раз бало́та, дый прышо́ў у свой двор.
Разду́малася Ча́пля, што за Жураўля за́муж не пашла́, „дай“ — ка́жэ — „пайду́ да яго́ и перэпрашу́“.

Ципяху́, липяху́, сем вярсто́ў па маху́, цера́з бор, ды ў жура́ўлйоў двор. „Здаро́ў Жураве́ль“? „Як ма́ешся Ча́пля“? — „Вазьми́ мяне́ за́муж за сябе́“. „Твая́ шы́я до́ўга, и си́ня,

и крывáя и самá ты гарбáтая; такóй мне не патрэ́ба".

Хаця́ былó й сты́дна, аднáк Чáпля папляля́ся цéраз бор назáд у свой двор.

Шкóда стáла Жураўлю́, што ня узя́ў Чáплю бéдную и зноў пайшóў йон тóю сáмаю дарóгаю. Ципяхý, липяхý, сем вярстóў па махý...

Так цэ́лы век свой хадзи́ли яны́ адзи́н да аднагó у свáты и таки́ на абóдвых канцóх балóта астáлися йих хáты.

Гóрка рэ́дзька,—ды ядýць,
Кéпска зáмужэм—ды йдуць,
Хоць за валá, тóлькиб ў хáци не былá!

## 10. Куры́ца и пятýхъ.

Куры́ца и пятýх знашли́ паби́ты гаршчóк. Перавярнýли дагары́ дном, улéзли ў ягó, ды давáй скакáць. Скáчуць, скáчуць, ажнó ляци́ць мýха. Пастýкала ў гаршчóкъ стук, стук, и пытáець: хто там скáчэць?

Куры́ца с пятухóмъ.

— А ты хто?

Панéнка Мухóўская.

— Прóсим памагчы́ ў скóках.

Ска́чуць, ска́чуць, аж ляци́ць бонк *). Сту́кнуў ў горшчо́к: стук, стук, и пыта́ець: Хто там ска́чэць?

Курыца с пятухо́м.

Пане́нка Мухо́ўская.

— А ты хто?

— Пани́ч Банчуко́ўски.

— Про́сим памагчы́ ў ско́ках.

Ска́чуць, ска́чуць, аж с пад пло́ту выска́кивае жа́ба. Жа́ба пасту́кала ў гаршчо́к: стук, стук! Хто там ска́чэць?

Курыца с пятухо́м.

Пане́нка Мухо́ўская.

Пани́ч Банчуко́ўски.

— А ты хто?

— Па́ни Балато́ўская.

— Про́симъ да ско́каў.

Ска́чуць, ска́чуць, аж з нары́ выска́кивае мышка. Мышка пасту́кала ў гаршчо́к: стук, стук! Хто там ска́чэць?

Курыца с пятухо́м.

Пане́нка Мухо́ўская.

Пани́ч Банчуко́ўски.

Па́ни Балато́ўская.

— А ты хто?

*) бонк=авадзе́нь.

— Пáни Нарчыкóўская.

— Прóсим да скóкаў.

Скáчуць, скáчуць, аж з лéсу выбегáе зáйчык. Застýкаў лáпками ў гаршчóк: стук, стук! Хто там скáчэць?

Курыца с пятухóм.

Панéнка Мухóўская.

Панúч Банчукóўски.

Пáни Балатóўская.

Пáни Нарчыкóўская.

— А ты хто?

Пáнски смакýнчык.

Прóсим да скóкаў.

Скáчуць, скáчуць, аж з лéсу выбегáе лисúца. Застýкала ў гаршчóк: Стук, стук! Хто там скáчэць?

Курыца с пятухóм.

Панéнка Мухóўская.

Панúч Банчукóўски.

Пáни Балатóўская.

Пáни Нарчыкóўская.

Пáнски Смакýнчык.

— А ты хто?

— Пáнски Адзевáнчык.

— Прóсим да скóкаў.

Скáчуць, скáчуць, аж з лéсу вылáзе мядзь-

ве́дзь. Засту́каў ў гаршчо́к: Стук, стук! Хто тамъ ска́чэць?

Кури́ца с пятухо́м.

Пане́нка Мухо́ўская.

Пани́ч Банчуко́ўски.

Па́ни Балато́ўская.

Па́ни Нарчыко́ўская.

Па́нски Смаку́нчык.

Па́нски Адзева́нчык.

— А ты хто?

— Я куми́шчэ мядзьвядзи́шчэ, ўсих задушы́шчэ, я вас падушу́!

И тут мядзьве́дзь прыци́снуў ла́паю гаршчо́к. Гаршчо́к разляце́ўся на куски́, а скакуны́ разляце́лися на ўсе́ старо́ны: куры́ца с пятухо́м — пат печ, пане́нка Мухо́ўская и пани́ч Банчуко́ўски бурчучы́ паляце́ли да хлява́, па́ни Балато́ўская шлйо́пнулася ў бало́та, Нарчыко́ўская — ў но́рку, за́йчык ў по́ле, а лиси́ца да ле́су.

Куми́шчэ Мядзьвядзи́шчэ аста́ўся адзи́н над пабитым гаршчко́м.

## 11. Цыга́н.

Аднаго́ ра́зу да працави́тых людзйо́у прыби́ўся цыга́н. Се́ли абе́д е́сци; с пача́тку пры-

нясьлі́ малódзива ў чарапку́. Адзи́н з йих и пытáець: „каму́ гэ́та малódзива зьéсьци?“ „Мне“, кáжэ цыгáн. Послé прынясли́ ми́ску килбáсаў. „А килбáсы ж каму́? и зноў пытáюць лю́дзи. „Мне“, крычы́ць цыгáнъ. Паабéдали, устáли з за сталá, и кáжуць: „ну, а цяпéр каму́ж малаци́ць исьци́?“ „Малаци́ць не мне атазвáўся цыгáн; я и так ужó на сябé дзьве рабóты ўзя́ў, дык на трэ́ццюю си́лы ня стáнець“.

Цыган, дзетки, не багаты,
Цыган на'т*) ня мае хаты,
Не гарэць йон, ани сейиць,
Тольки ў слонцы зубы грэйиць.
Якъ абедаць—зварыць ў полю;
Якъ спяваци—хвалиць долю.
Цыган босы, абарваты,
Цыган, дзетки, не багаты.

---

*) на'т=нават.

# Часьць II.

## 1. Мой сад.

Стайиць мой сад пад белым цьветам;
Нарцыз, стыдливых поўны крас;
Звисае бэз ў вакно букетам;
Тульпанаў куст разцьвйоў зараз.
Цьвяце ляўкой, ў пуках рабина;
Вишнйова дрэва ў малацэ;
А там парэчка, там малина,
А там мой граб малы расьце.
Люблю мой сад, як расцьвитае,
Як салавей свой трэль вядзе,
Як цьвет галинку прыгибае,
Як пчолка мйод аттуль нясе.
Люблю мой сад ў майовым ранку,
Як тоне йон ў расистай мгле,
Як липа шэпчэцца пры ґанку
И як зязюлька ку-ку шле.
Люблю мой сад пад белым цьветам,
Люблю, зялйоным як стайиць,
Люблю, як грушы сьпеюць летам
И як работай йон кипиць.

Люблю мой сад у позну восень,
Як плод звисае да зямли,
Як йголки сыплюцца ат сосен,
Як залацяцца слиў листки.
Люблю мой сад у крэпку зиму,
Як у крышталах ўвесь дрыжыць,
Як дзяцел, сеўшы на галину,
Зимову песьню загудзиць!

## 2. Мая вйоска.

Вйоска, гдзе я радзиўся, завецца Стаўбунцы. Яна не далйока ад Вильни на пачтовым гасцинцы. Навокал раскинулися цйомные лясы. Праз двои гоны за гародами бяжыць быстрая рэка—Вилия, найбольшая з усих рэк у нашай губэрни. У майой вйосцы ўсяго будзе дымоў з восемдзесяць. Хаты пакрыты саломаю; найчасьцей на два канцы, с коминами. Шакжа йосць и курныя, але ня многа, и то найбольш старыя, даўнйошния. Вакеницы малююць на синя, або на жоўта. Садоў вяликихъ гаспадары ня маюць, але не бес таго, каб на кожным гумнишчу не расли дрэва слиў и груш. Ля самых хат любяць садзиць топали. А ўся вулица высаджана вербами.

Народ не богаты, але, прызнацца, и ня бедны: хлеба паддастатак—не купляе; гроши на сваю патрэбу заўсйогды заробиць сплавам лесу. Маладые

хлопцы найчасцей выяжджаюць на зарабатки да Пецярбурга, Адесы, Рыги и других мест.

Валасное праўлення (канцэлярыя), пошта, вучылишча, касьцйол, цэрква — гэта ўсйо знаходзицца за дзьве вярсты ў мястэчку Грычанишкахъ.
Упярод Стаўбунецкия дзеци хадзили вучыцца да казйоннага вучылишча, и там их вучыли па расейску.

После ксйондз пры касцели устройиў польскае навучання, ды пачаў туды дзятву скликаць. Вышла каша, бо траплялася так, што адных бацькоў адзин сын хадзиў да расейскага вучылишча, други да польскага, вярнуўшыся да хаты, адзин гаварыў па расейску, други па польску. И абодва разам цуралися роднае мовы. Хатние бачуць, дрэнная работа: дзеци здзичали, стали ў свайой хаце чужыми. Мову сваю перадражниваюць, гутарки роднае стыдаюцца, над бацькаўскай гаворкай рагочуць. Слабы толк! И вот раз у свята зышлися гаспадары усей гэтае вйоски, парадзилися, паталкавали, дый пастанавили устройиць у Стаўбунцахъ сваю беларускую школу. Наняли сьветлы канец хаты ў Ясюка Курылы, ўзяли вучыцеля беларуса, накупляли книг беларуских и начали вучыць свайих дзетак у свайой вйосцы, у свайим вучылишчу ды свайой мовой, С тае пары пашоў лад. Вернуцца дзетки з вучэння, прынясуць с сабой казак, песняў, пачнуць бацьком чытаць. Бацька ўець путы,

маци прадзе кудзелю, а малы сынок чытаець йим цикавыя рэчы, цикавыя здарэння. Вот и стане ўсим вясйола, Патчас збяруцца яшчэ и суседзи паслухаць малога чытаку.

## 3. Родная вйоска.

Вйоска мая, чараўница,
Што сэрцэ украла?
А мо' *) Вилья балаўница
Хваляй захлестала?
Мо' дубровы захапили
Бице ў майим сэрцы?
Мо' суседзи наварыли
Любчыку ў манерцы?
Бо куды я ни звярнуся,
Куды я ни гляну,
С табой, вйосачка, спаткнуся,
Цябе успамяну.
Еду морам—ўсйо здаецца,
Што плыву Вильйою;
И ў Сыбиры сэрцэ бьецца,
Край мой, за табою.

## 4. Лес.

Высоки лес, шуми-скрыпи, расу хавай, ў рэку ўливай, грыбы расьци, ня дай цвясьци жалобным кветкам.

*) мо'=можа.

Няси налеткам свой доўги цень, кладзи на пень ў гирлянды *) мох, сцяли пасцель, каб кожны мог прылегч спачыць.

Высоки лес, ци чуеш гром, як йон злуе з усих старон? Як па дуплйох дрыжаць зязюли? як хмара с хмарай пашла ў гули?

Тарахнуў гром! маланка палиць на вугаль чорны ўвесь гарэх. А во и град па гольях смалиць. А во на злосьць, а во на сьмех, пярун на трое дуб разбиў. А во пяць йолак зачапиў круцясты вихар, гнe йих ў двое. А во ў гняздо як раз абоя упали буслы: пишчаць йих дзеци. А во нямаш куды падзеци кустоў малины перад бурай. А во и зайчыкъ дрыжыць шкурай. На кветках пчолак град пабиў. Паземки с купин дождж ык змыў. Усйо хаваецца, дрыжыць. Усенек лес цямненьким стаў. Па гольях шум; у леси штурм. На землю сьцелецца навал.

Высоки лес, гусьценьки лес, искрыцца бела шата. Ў крышталах ива, бяроза сива, ў мароз прыбрата, чакае сьвята. Зялйона елка—бытцым с пудэлка. Стайиць ў драмоци дубок пры плоци. Кусток калины апийор галины па трухлях тоўстай борци. Зацихли песьни ў листох цярэсьни, у гнездах пуста, гдзе была густа птушак вясною. Дзятва лясная да нас злятае

---

*) Гирлянды = шнуры з зельля, ци с кветак.

с цйоплага краю, аж з за Дунаю. Сойка зимуе, цецер такуе, дзяцел такочэ, сава рагочэ, вирабей ля хаты, сьмецюшок чубаты, ды сястра синичка — нашы вечны госьци.

## 5. Пчолы.

Хто ня знае пчолак? Хто ня бачыў на садох вулйоў, сьпйортых аб яблыны ци липы? Хто ня чуў



пагаворак аб барцяныхъ лясных пчолах, аб мядзьведзях, ласых на пчалины мйод? (Ласы, як мядзьведзь на мйод). Хатки пчолак звернуты падоўжнями да слонца; кала йихъ чысьценька, ахайненька.

Ранютка ўстаўшы, вочки працйоршы, пачынаюць увихацца мядоўнички—працаўнички, разлетацца на ўсе староны.

Гайдаюцца яны па кветачках, жаўцеюць па лужочках, званяць па бярэзничках.

Выдзеш весьняным ранкам на зялйону сенажатку, глядзиш, па дзяцелини поўзаюць скрыдлятачки, збираюць бурштыначки мядок, нясуць да вулля, зливаюць ў чашачки васковыя.

Нямаш ў йих сварбы, нямаш дзяльбы. Матку сваю шануюць; яна то ў йих и гаспадарыць, яна толк вядзе ўсей грамады. А за тое дзетки даюць пачотнае мейсца матцы ў вульли. Не пускаюць на работу матки. Кажуць: „Ты, матулька, ў хатцы сядзи, ды за парадкам глядзи, каб ўси дзетки працавали, ды цябе шанавали“.

И праўда, што матка глядзиць за ўсим-чыста. Кожны дзень пабудзиць, тую сюды, гэту туды пашле, катору па расу, катору па мйод, а гдзе и на разведки; некаторых прысупониць у вулли папратаць: вымесьци, сьмяцьцйо вынесьци, хворых абглядзець, малыхъ накармиць. Цэлы дзень работа идзе агнйом. Гультаяваты чалавек каб прыглядзеўся да пчалинае работы, то пэўне засаромиўсяб па вушы.

Падумаеш: за вярстоў кольки, за милю и больш ляцяць на работу. И николи каб гэта яны сумавали.

А як непрыяцеля спаткаюць, так цэла хэўра гатова пайсьци на сьмерць. Ўсе за адну, а адна за ўсих. Ўсе роўны: няма ни дваран, ни мешчан, нихто ня йдзе ў паняверку. Адзинакава права, адзинакий пачот, кожнай роўнае мейсца за сталом.

## 6. Сирата.

Сями гадоў асталася Настулька круглаю сиратою. Перш на перш памйорла мэци з гарачки, а праз два роки *) бацьку забила дрэва ў леси. Прышли людзи на хаўтуры, пабядавали, а нават некаторые паплакали. И тым скончылася тоя. Бацьку пахавали, а Настулька асталася адна адзинютка, як палец, на белым сьвеци. Некаму Настульку накармиць, ани сарочку перамяниць. Жыла яна з нябошчыкам бацькай у Саладухи Канцавога на гасподзи. Асталося крыху адзення на бацькох: кажух, армяк, ботоў прышвы, жыта с паўтары шэснастки, ды круп з гарчык. Вот и ўся гаспадарка сирацины, а й тую разабрали за доўг.

Была лета. Людзи высыпали на палетки на работу. Адны дзеци ды сабаки асталися ў вйосцы. Сирацина села на прызьбе и давай плакаць, давай

*) Гады.

крычаць: „Тата, тата, тата!... А тата далйока, ляжыць ў сырой зямли глыбока, ня чуе, як галодна̀я дачка плачэ. Дзѐци малыя пасхадзилися, апступили Настульку. Хто меў яблыка, грушку, хто кусокъ кашы, хто скарынку хлеба, клали ў ручки малой Настульцы. Будзькин Михась пабег да хаты и ўсе сваe цацки прынйос дзеўчынцы. Але Настулька ничога ня брала, ничога ня слухала; яна ўжо ня плакала и не крычала, а чыста ссинеўшы тольки хлипала. Ажно показалася старая жабрачка, сива моў галубка; ишла памаленьку, апираючыся на кийок. Падышла бабуля да дзетак, распыталася прыгарнула сирацину да сябе, пагладзила па галоўцы, кажучы: „циха, цыха, тата прыдзе, абаранку прынясе, вун туды пашоў за лес! зараз прыдзе“. Выняла с торбы хлеба, сыра, накармила, завяла пат студню, вымыла ей тварык, зняла сарочку, ахаяла ў карыци, высушыла, прыбрала Настульку и павяла с сабою, нагаварываючи: „Пойдзем, дачулька, да таты, пойдзем“. Нихто не пытаў: па што, куды и скуль бабуля. Спрацины якбы й не было, якбы яна й не радзилася ў Прудзянцах.

Прайшло гэта гадоў с чатырнаццаць. Нядзелькаю ў летку павыходзили прудзянские на вулицу. Старые сабе гаварыли, маладые гуляли. Ажно бач! Сивая канина, запрэжана ў калымашку, астанавилася

проци Саладухавай хаты. Выскачыла маладая дзеўчына, пекна, проста не наглядзецца, як с казки каралеўна, ды давай витацца с усими, давай цалавацца з бабами, дзяцьми, дзеўчатами. А тут нихто ня знае и ня думае, што гэта сирацина Настуля прыехала адведаць бацькавы магилы. После тольки памалу, памалу разгаварылися так, ды сяк, прыпомнили.

Настулька расказала, што бабуля завяла яе ў вялики горад, аддала добрым людзйом; тые яе выгадавали, выўчыли, и што цяперь яна вучыцельницай ў Лебедзянскай воласьци. Пабыла Настуля кольки дзйон у Прудзянах, пагасьцила и давай выбирацца ехаць назад. А вясковые кажуць: Не, мы цябе ня пусьцим; мы табе спадабалися, а и ты нам. Нихто яшчэ так з нами не гаварыў добра, як ты. Аставайся! У нашай воласьци—такжэ йосьць школа, так ты и вучы нашых дзетак".

Тым тоя кончылася. Настуля пажагналася и паехала да хаты.

Прайшло лета, восень, настала зима. Прудзянские гаспадары, ничога ня ведаючы, забрали хлопцоў и павяли ў воласць вучыць. Глядзяць: Настуля—вучыцельницай прымае, записывае хлопцоў, як мае быць. Атож была радосць...

Ў другую нядзелю бабы, дзеўчаты, хлопцы пашли

адведаць Настулю. После Настуля стала прыежджаць ў госьци да Прудзян ужо с свайими вучнями.

А старое бабули так нихто больш ня бачыў. Скуль прышла, куды пашла, гдзе падзелася, Богъ ле знае, ани слыху!..

Сирацина слйозки лье;
Неба кожну личыць.
Сам Бог силы ей пашле
Адваги пазычыць.
Як на камень, ци на сталь
Скоцяцца слязины,
Чыста спаляць: вельки жаль
Ў слязе сирацины.

# 7. Прыпеўки.

1) А ў гародзи мата,
За гародам мята;
Люби мяне, мой миленьки,
Хоць я не багата.

2) Я на ганачку стаю
Слйозы коцяцца:
Мяне замуж аддаюць,
Мне ня хочэцца.

3) Адна баба ашалела,
Другая аслепла,
Шалйоная на сляпой
Паехала ў пекла.

4) Ишоў Тодар с Тадораю,
Нашли лапаць с абораю.
Ой ты Тодар, я Тадорка,
Табе лапаць, мне аборка!

5) Каля лугу, каля лугу, каля лугавинки
Ци ня видзеў, ци ня бачыў прыгожай дзяучынки?
Хоць я видзеў, хоць я бачыў, ня буду казаци,
Запрагу я пару кони, паеду шукаци.

## 8. Прыказки.

Будзиць пара, будзиць и трава.

Бог больш мае, як раздаў.

Пилнуй гаспадарки, будуць ў гаршку скварки.

Вольнаму воля, шалйонаму поля, а святому рай.

Ўсяки цыган свайго каня хвалиць.

Гдзе кветки, тамъ и мйод.

Кали ня веруць, не бажыся; кали бьюць, не прасися.

Не чапай никога, ня бойся ничога.

Других слухай и свой розум мей.

Ильля близка, гнися, баба, низка, ўставай раненька, ды жни да пазьненька.

Ня ўсйо то сонцэ, што ў ваконцэ.

У вала язык доўги, ды гаварыць ня можэ.

Кали ўлез ў дугу, не кажы „не магу“.

Па шляхоцки—па палови клйоцки; а ў мужыцким шчоци—па тры клйоцки ў роци.

Сказаў—як звязаў.

Кали мужык з жонкай сварыцца, тады ў гаршку трасца варыцца.

Скупы два разы трацыць.
Ў восень и вирабей богаты.
Хто дбае, той мае.
Хто поле тройиць, той хлеб кройиць.
Хто тры разы гарэ, той снапоў больш бярэ.
Як ты да людзйоў, так людзи да цябе.
Любиш ездзиць, люби й саначки вазиць.
Ранняя птушка зубки цярэбиць, а позная вочки трэць.
Загляне сонцэ и ў нашэ ваконцэ.
Сваe будзим, кали не пабйомся (гаворыцца, кали хто кому на нагу знинацка наступиць, або штурханець).
Ци кот ци лишка? ци Лявон, ци Грышка? (пытаюцца дзеўку).

## 9. Загадки.

Стаяць вилы, на вилахъ кадлуб, на кадлубе мигайло, на мигайли маргайло, на маргайли густы ельник. (Чалавек.).

Ў агню не гарыць, на вадзе ня тонець и па саломи не шасьцицъ. (Цень)

Стайиць Грыгор памеж гор, вилами патпйорты. (Стоўп).

Вечэрам прыляцицъ, — ўсю ноч на зямли праляжыць, а ранцай на неба и зноў паляцицъ. (Раса).

Два зайцы рэжуцца, белая кроў идзе. (Жорны и мука).

Пашла баба да Киева, ў хаци косьци пакинула. (Канапля).

Поўна бочэчка вина, нигдзе дзюрачки няма. (Яйко).

Часам рассеваю, часам я збираю, сам сыты бываю и людзйоў кармлю. (Збожэ).

Чатыры браты пад аднэй шапкай стаяць. (Стол.).

## Суполка „Загляне сонцэ и ў нашэ ваконцэ“ выдала пакуль што и прадае:

**Biełaruski lementar** abo pierszaja nawuka czytańnia, cana 6 kapiejek.

**Pierszaje czytannie dla dzietak** biełarusoŭ. Napisała Ciotka, cana 6 kap.

**Беларуски лемэнтар**, або першая навука чытання, цана 6 кап.

**Першае чытанне для дзетак** беларусаў. Написала Цйотка, цана 6 кап.

### ЎЗЯЛА НА СКЛАДЪ И ПРАДАЕ:

**Вязанка** Янки Лучыны (Ивана Неслухоускаго), цана 4 кап.

**Казки.** Выдаў А. К., цана 6 кап.

### Беларуские пачтовые писульки:

Шчорсуны ў летко; Шчорсуны ў зимку; Пранцишэк Богушэвич (Мацей Бурачок) песьняр беларуски; Винцук Марцинкевич; песьняр беларуски; Мужыки спад Пухавич; Торжышчэ ў Пухавичах; Дзеўчата спад Слуцка; Парабкава дворная хата; Дудар беларуски; Янка Лучына (Иван Неслухоўски) песьняр беларуски; Вясковая баба с Трыбужкоў; Дом Тадэуша Косцюшки у Мэрэчоўшчыни. Цана кожнай 5 кап.

Ўсйо гэта можна купляць ў глаўным складзи ў Пецербургу Василйоў востроў, 4-та линія, № 45, кв. 16.

Хто купляе ў глаўным складзи ня менш як за поўрубель, той ня плациць за прасланне почтаю. Малые грошы можна высылаць пачтовыми марками. Ящэ можна ўсйо гэта купляць:

| | | |
|---|---|---|
| ў Гомли у книгарни | | Я. Г. Сыркина. |
| Гродни | „ | Б. Козлоўскаго. |
| Магилйови | „ | Я. Г. Сыркина. |
| Менску | „ | В. Макоўскаго. |
| Варшави | „ | Г. Цэнтнэршвэра на Маршалкоуской вулицы. |
| Пецербургу | „ | Польскай книгарни на Екатерынинскай вулицы. |
| Вильни | „ | В. Макоўскаго; І. Завадзкаго; М Пясецкае-Шляпэлис. |
| Витебску | „ | М. Залшупина. |

# Выпис с таварыскае умовы

## Беларускае выдаўницкае суполки „Загляне сонцэ и ў нашэ ваконцэ“.

§ 1. Таварыства устанаўляецца для таго, каб друкаваць и шырыць памеж людзйоў книги беларуские и усйо, што датычэ Беларуси.

§ 2. Таварыства гэта будзе называцца „Загляне сонцэ и ў нашэ ваконцэ“.

§ 5. Для тых, што захочуць прылучыцца к таварыству будзець книга с атрыўными квитами па дзесяць рублйоў кожны. Хто заплациць дзесяць рублйоў, той личыцца супольникам.

§ 6. Супольник сам не мешаецца у гаспадарку таварыства (не заведуець грашми, не вядзець рахункаў, не падписываець векселяў и т. д.) и не атвечаець за справы таварыства и за яго даўги.

§ 7. Кожны супольник мае права падаваць голас дарадчы.

§ 9. Ат чыстаго прыбытку кожны год адличываецца 10% ў запасны капитал. З астаўшаеся часци раздаецца поўнапраўным сябруком и супольникам дывадэнда, т. е. частки, мяркуючы да йих грошы ў таварыстве, але ня больш за 8% ў год.

§ 13. Умова гэта, чыли дагавор маець силу да 1-го студня (января) месяца 1909 года. Аднак кожны супольник маець права выйсци с таварыства „Загляне сонцэ и ў нашэ ваконцэ“ и раней.

Аб гэтым павинен йон на паперы уведамиць за 6 месяцаў да канца году. Грошы аддаюцца яму з аснаўного капитала.

Хто хочэ, таму можэць быци выслана поўная таварыская умова.

Адрэс суполки:

Пецярбург. Василйоў востроў 4-ая линія № 45, кв. 16.

Литературно-художественное издание

*ТЁТКА*

**ПАШКЕВИЧ Алоиза Степановна**

**ПЕРВОЕ ЧТЕНИЕ ДЛЯ ДЕТОК БЕЛОРУСОВ**

Стихи, рассказы, сказки, загадки

Факсимильное издание

Минск, издательство «Юнацтва»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

*ЦЁТКА*

**ПАШКЕВІЧ Алаіза Сцяпанаўна**

**ПЕРШАЕ ЧЫТАННЕ ДЛЯ ДЗЕТАК БЕЛАРУСАЎ**

Вершы, апавяданні, казкі, загадкі

Факсімільнае выданне

Выданне падрыхтавана па экземпляры,
які захоўваецца ў Літаратурным музеі
Янкі Купалы г. Мінска

Адказныя за выпуск *І. І. Бокій* і *А. М. Каляда*

ІБ № 1539

Здадзена ў набор 16.11.90. Падпісана да друку 23.12.91. Фармат $84\times108^{1}/_{32}$.
Папера афс. № 1. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 1,68. Ум. фарб.-адб. 3,99. Ул.-выд.
арк. 0,95. Тыраж 5000 экз. Зак. 809. Цана 8 р. 50 к.

Выдавецтва «Юнацтва» *Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку.*
220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа.
220005, Мінск, Чырвоная, 23.

Ц $\frac{4803120102-035}{\text{М } 307(03)-92}$ 20—92

ББК 84 Бел 1
Ц52

ISBN 5-7880-0520-5

